www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

**№ 72 (4221)**

12 верасня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## У IV квартале — з «Народнай Воляй»!

Зусім мала часу застаецца да заканчэння падпіскі на “Народную Волю” на IV квартал. А кастрычнік-снежань – той перыяд, калі толькі і чытаць любімую газету. Дачны сезон закрываецца, пра летні адпачынак можна толькі ўзгадваць, восеньскія вечары наступаюць рана – толькі і застаецца пасля рабочага дня ўзяць у рукі “Народную Волю” і атрымліваць асалоду ад цікавых, змястоўных матэрыялаў такіх аўтараў, як Святлана Калінкіна, Аляксандр Класкоўскі, Аляксандр Фядута, Марына Коктыш, Марыя Эйсмант, Алена Малочка, Міхась Скобла, Валерый Карбалевіч, Алесь Сівы, Барыс Жаліба і многіх іншых. А якая мазаіка нашага жыцця на тэматычнай старонцы “Пошта”!

Адным словам, будзем у IV квартале – з “Народнай Воляй”. Падпішыцеся самі і парайце (дапамажыце) гэта зрабіць сваім родным, сябрам, саслужыўцам. Усіх чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”.

**Вы – з “Народнай Воляй”,**
**“Народная Воля” – з Вамі!**

**Рэдакцыя.**

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ

## ШТО страшнейшае за танкі Пуціна?

Апазіцыйная акцыя супраць вучэнняў “Захад-2017”, што прайшла ў Мінску 8 верасня, аказалася нешматлюднай. Арганізатары падкрэслівалі: многія баяцца выходзіць на вуліцу.

Думаю, аднак, што не толькі ў гэтым праблема. Кладучы руку на сэрца, манеўры, актыўная фаза якіх распачнецца 14 верасня, значна меней хвалююць шараговых беларусаў, чым, напрыклад, усхвалявалі на пачатку года “лісты шчасця” ад падатковых інспекцый з патрабаваннем аплаціць “дармаедскі” збор.

Паводле апытання, праведзенага ў красавіку Беларускай аналітычнай майстэрняй (Варшава, кіраўнік – Андрэй Вардамацкі), 68,3% беларусаў мяркуюць, што расійская анексія нашай краіны паводле крымскага сцэнарыя немагчымая, а дапускаюць такое толькі 14,1%.

У тое ж, што акупацыяй Беларусі можа скончыцца менавіта “Захад-2017”, вераць, мяркую, зусім нямногія. Па-першае, гэта толькі чарговая супольная трэніроўка нашых і расійскіх вайскоўцаў, прычым трох тысяч салдат з суседняй краіны надзвычай мала для захопу (падчас “Захаду-2009” іх прыязджала блізу шасці тысяч). Па-другое, Уладзіміру Пуціну цяпер відавочна не да агрэсіі, у яго баліць галава, як выблытацца з санкцый за Крым і Данбас.

Нарэшце, і гэта самае галоўнае, Пуціну няма патрэбы браць Беларусь груба, кідаючы сюды “зялёных чалавечкаў”, танкі і г.д. Нашто нажываць новы галаўны боль, яшчэ мацней абвастраць адносіны з Захадам, калі Мінск і так па вялікім рахунку ў расійскай пастцы? Прычым залежнасць ад Масквы толькі ўзмацняецца насуперак дэкларацыям пра шматвектарнасць замежнай палітыкі, дыверсіфікацыю знешняга гандлю.

Вось трубіць тутэйшае начальства, што гэты гандаль пайшоў угору. Так, але найбольшымі тэмпамі (на 22,8% за студзень–ліпень, паводле дадзеных Белстата) вырас ён акурат з Расіяй. У выніку на ўсходнюю суседку прыпадае больш за палову нашага знешнегандлёвага абароту, а вось на Еўрасаюз – толькі блізу 23%. І колькі б ні ставіў Аляксандр Лукашэнка задачу “ўгрызацца ў еўрапейскі рынак”, гэта немагчыма без рэформаў, якія павысілі б канкурэнтаздольнасць нашай прадукцыі, узнялі долю высокатэхналагічнага экспарту.

Між іншым, у беларускіх улад была магчымасць на выгадных умовах атрымаць крэдыт МВФ на тры мільярды долараў. Але дзеля гэтага трэба было акурат згадзіцца на структурныя рэформы, трансфармацыю замшэлага дзяржсектара эканомікі. А паколькі гэта беларускаму кіраўніцтву як нож востры, то палічылі за лепшае дамовіцца пра чарговы міждзяржаўны крэдыт з Расіяй (ён вось-вось паступіць). Такім чынам, фінансавая залежнасць ад Масквы ўзмацнілася.

Яшчэ болей узмацняе гэту залежнасць будаўніцтва Беларускай АЭС за расійскі крэдыт на 10 млрд долараў. Не кажучы ўжо пра тое, што гэта і тэхналагічная прывязка да Расіі. Ды яшчэ і з Літвой, якая ўваходзіць у Еўрасаюз, НАТО і да пары да часу выступала адвакатам Мінска на Захадзе, на гэтай глебе мы капітальна рассабачыліся. Тым самым перакрэсліваюцца прыгожыя тэзы нашага МЗС пра развіццё заходняга вектара, донарства рэгіянальнай бяспекі.

Нарэшце, сюжэт з выкраданнем у Гомелі 19-гадовага ўкраінца Паўла Грыба (сёння ўжо практычна няма сумневу, што гэта зрабіла ФСБ) паказвае, што расійскія спецслужбы гаспадараць на беларускай тэрыторыі, як у сябе дома.

За гады “братняй інтэграцыі” Мінск падпісаў да чорта ўсякіх дамоў, што змушаюць да шчыльнага ўзаемадзеяння ў сферах палітыкі, бяспекі, інфармацыі і г.д. Таму і супольныя манеўры ладзяцца, і адзіная рэгіянальная сістэма супрацьпаветранай абароны створана, і так званая адзіная інфармацыйная прастора Саюзнай дзяржавы абвешчана, і спецслужбы моцна кантактуюць, робяць адна адной адмысловыя паслугі.

Раней інтэграцыйныя гульні давалі Мінску добрыя дывідэнды, забяспечвалі нібыта трывалы геапалітычны “дах”, але пасля Крыма многае істотна змянілася. Шчыльнае партнёрства з агрэсіўнай, непрадказальнай Расіяй, якая ўступіла дэ-факта ў новую халодную вайну з Захадам, стала для Беларусі чыннікам велізарнай рызыкі.

Вось днямі кіраўнік КПРФ Генадзь Зюганаў пахваліў Лукашэнку за тое, што ў нас тут шырока транслююцца расійскія тэлеканалы. Зразумела, расійскаму камуністу гэта падабаецца. Але для нас гэта каласальная небяспека, бо праз тыя каналы ў мазгі беларускага грамадства, якому і так бракуе нацыянальнай самасвядомасці, ціхай сапай упаўзае “русский мир”.

Карацей, страшныя не манеўры “Захад” самі па сабе. Куды страшнейшай небяспекай, на мой погляд, з’яўляюцца рэтраградскае, саўковае мысленне беларускага кіраўніцтва, адсутнасць рэформаў, што стрымлівае развіццё нашай краіны, яе інтэграцыю ў развіты свет, прыкоўвае нас да Масквы.

Гэты працэс дэградацыі, страты гістарычных магчымасцяў вядзе да таго, што ў нейкі момант адсталую, збяднелую русіфікаваную краіну Пуцін (ці хто там будзе тады сядзець у Крамлі) зможа ўзяць голымі рукамі.

ВІЗІТ

## Што прывязе беларуская дэлегацыя з Нью-Дэлі?



**Аляксандр Лукашэнка** знаходзіцца з афіцыйным візітам у Індыі, дзе ў яго запланаваны шэраг сустрэч: з прэзідэнтам гэтай краіны **Рамам Натхам Кавіндам,** прэм’ер-міністрам **Надэндрам Модзі** і іншымі асобамі.

Безумоўна, галоўная мэта візіту – эканоміка, пошукі інвестыцый і рынкаў збыту беларускай прадукцыі. Адначасова з кіраўніком дзяржавы ў Індыю паехала вялікая дэлегацыя беларускіх чыноўнікаў, кіраўнікоў вытворчасці, бізнесменаў. У Нью-Дэлі праходзіць Індыйска-беларускі бізнес-форум, на якім чакаецца падпісанне шэрагу пагадненняў у самых розных галінах і сферах.

Беларуская дэлегацыя сваіх намераў не хавае. Намеснік прэм’ер-міністра Беларусі **Уладзімір Сямашка** заявіў на форуме, што аб’ём двухбаковага тавараабароту, які па выніках 2016 года склаўся на ўзроўні каля 400 млн долараў, значна ніжэйшы за патэнцыял Беларусі і Індыі. Беларускі бок хацеў бы, каб гэтая лічба складала 1 млрд долараў.

За кошт чаго тавараабарот можна нарасціць?

Ужо ўчора, пасля першага дня працы форуму, у СМІ пайшлі афіцыйныя паведамленні: у ходзе асноўнай часткі мерапрыемства беларускія і індыйскія партнёры заключылі 10 розных пагадненняў і мемарандумаў. Тычыліся яны ў асноўным аховы здароўя (фармацэўтыкі) і турыстычнай індустрыі. Таксама быў заключаны кантракт паміж ААТ «Гомсельмаш» і Gomselmash India Private Limited на пастаўку сельгастэхнікі. Яшчэ адзін дакумент – пагадненне аб супрацоўніцтве паміж ААТ “БелАЗ” і кампаніяй M/s BGR Mining & Infra Ltd. Для Беларусі прынцыповым з’яўляецца пытанне аб стварэнні сумеснага прадпрыемства па вытворчасці кар’ернай тэхнікі ў Індыі, сумеснага прадпрыемства па вытворчасці грузавых аўтамабіляў і аўтобусаў МАЗ і іх сэрвісным абслугоўванні, а таксама пра магчымасць пачатку зборкі ў Індыі трактароў МТЗ.

Што тычыцца індыйскіх інвестыцый у Беларусь, то напярэдадні візіту пасол Беларусі ў Індыі **Віталь Прыма** заяўляў, што прапрацоўваецца пытанне прыцягнення індыйскага крэдыту ў памеры 100 мільёнаў долараў для будаўніцтва і развіцця прамысловай зоны мультымадальнага прамыслова-лагістычнага комплексу ў пасёлку Балбасава Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Там плануецца стварыць беларуска-індыйскія СП па выпуску электронікі і бытавой тэхнікі, лекаў, адзення і абутку.

Напэўна, сёння, 12 верасня, пасля двухбаковых перамоў паміж прадстаўнікамі беларускіх міністэрстваў і ведамстваў і іх індыйскімі калегамі стане вядома пра ўсе канчатковыя дамоўленасці і канкрэтныя пагадненні, падпісаныя ў ходзе візіту.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

### Толькі лічбы

У 2016 годзе тавараабарот Беларусі і Індыі склаў 406,6 млн долараў, з якіх беларускі экспарт склаў 272,5 млн, а беларускі імпарт – 134,1 млн долараў. У студзені–маі 2017 года тавараабарот дзвюх краін склаў 174,7 млн долараў, што на 8,5% больш, чым за адпаведны перыяд 2016 года.

Важнейшымі экспартнымі таварамі з Беларусі, акрамя калійных угнаенняў, сталі ўгнаенні азотныя (16,7 млн долараў), кіслоты полікарбонавыя (3,8 млн долараў), жгут сінтэтычных ніцей (2,8 млн долараў), поліаміды (2,1 млн долараў), ніці комплексныя сінтэтычныя (1,3 млн долараў), гідразін, аксіды, гідраксіды металаў (1 млн долараў).

ЛІЧБЫ

## Праядаюць...

*У гэтым годзе беларусы прадалі валюты амаль на 1,4 млрд долараў больш, чым купілі.*

Паводле звестак Нацыянальнага банка, за восем месяцаў бягучага года беларусы прадалі наяўнай і безнаяўнай валюты на 5 млрд 453 млн долараў, а купілі – на 4 млрд 62 мільёны.

Суб’екты гаспадарання (рэзідэнты Беларусі) у студзені-жніўні прадалі замежнай валюты на 11 млрд 924 млн долараў, а купілі – на 12 млрд 167 млн долараў ЗША.

ДИПКУРЬЕР

## Латушко подарил собору… ковры

На днях в Париже состоялась церемония передачи в дар Свято-Троицкому кафедральному собору ковровых изделий белорусского производства.

От имени Посольства Беларуси во Франции и Почетного консула Франции в г.Брест Леонида Стаецкого Посол Беларуси во Франции Павел Латушко вручил епископу Корсунскому Нестору 22 ковровых изделия Брестского коврового комбината.

Корсунская епархия включает в себя православные приходы во Франции, Испании, Швейцарии и Португалии

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## Уроки сентябрьского вставания

Минувшей ночью мне пришлось читать всю лавину интернет-материалов, посвященных вторжению отдельно взятого лица без гражданства (вернее, лишенного гражданства) Михеила Саакашвили на территорию Украины. Душераздирающее чтение, должен я сказать. Полное ощущение маразма. Сначала его объявляют великим реформатором и вручают ему украинский паспорт, потом лишают украинского паспорта и намекают на нежелательность пребывания в Украине и, наконец, впускают его в Украину, обещая возбудить при этом уголовное дело сразу по трем статьям.

Но это было вовсе не самое интересное для нас, белорусов событие ночи с 10 на 11 сентября. Самое интересное и поучительное происходило не на польско-украинской границе, а в Москве.

Впервые за многие годы российская власть откровенно проиграла там местные выборы. Депутатские мандаты муниципального уровня в большинстве своем получила оппозиция – не представленные в Государственной Думе партии «Яблоко», блок Дмитрия Гудкова, а заодно и КПРФ. Нет, разумеется, «Единая Россия» получила некоторое число мандатов, но соотношение полученной ею и ее оппонентами электоральной поддержки вовсе не соответствовало тем катастрофическим настроениям, которые традиционно сопутствовали местным выборам в России.

Можно сказать, что президент Путин и мэр Собянин проиграли эти выборы, пытаясь выиграть их голыми технологическими схемами.

Российская власть сделала всё, чтобы явка была минимальной. В результате на выборы пришли в большинстве своем избиратели, которым было далеко не все равно, кто будет решать их судьбу. Пришли оппоненты путинского режима. А не пришли те, чье молчаливое равнодушие как раз и способствовало его укреплению.

Российская власть пыталась сделать ставку на тех кандидатов, имена которых почти ничего избирателям не говорили. Именно их и регистрировали – причем преимущественно по обе линии электорального фронта. И демократически настроенный избиратель смотрел не на любимое лицо, а на политическую программу и партийную принадлежность.

И Москва пала. Власть переиграла саму себя. Она обещала честные выборы – ее заставили их получить.

Я вспоминаю многолетние споры белорусских демократов о том, участвовать или не участвовать в выборах. В зависимости от ответа на этот вопрос тебя могли объявить предателем, лукашистом, агентом КГБ, агентом Кремля, прекраснодушным идиотом и даже попытаться исключить из оппозиции. Будь твой оппонент верующим – он бы тебя предложил предать анафеме, но, слава Богу, до этого не доходило.

Вот и ответ. Нужно встать с дивана и идти голосовать. Не нужно распылять силы – нужно сосредоточиться на конкретных участках, заставив власть честно посчитать голоса. Нужно договориться между собой, рассчитав реальное соотношение сил и уровень поддержки.

Но главное – нужно встать с дивана и идти голосовать. Это я повторяю специально для тех, кто может опять сделать вид, что меня не услышал.

Единственные выборы, которые я бойкотировал, – выборы президента Беларуси 2015 года. Но тогда у демократов не было кандидата, а власть отняла у нас смысл голосования против всех.

Но в местных выборах, как и в парламентских, участвовать нужно. Нужно – сделав уроки из сентябрьского вставания с дивана наших московских товарищей по несчастью. Если белорусы боятся Майдана, боятся повторить судьбу киевлян – что ж, нужно научиться полноценно использовать те механизмы демократии, которые нам оставлены оппонентами. Они не могут запретить нам голосовать – они могут лишь фальсифицировать. Фальсифицировать явку, фальсифицировать наблюдение, фальсифицировать итоги голосования. С этим тоже можно и нужно бороться. Нужно только встать с дивана – и сделать шаг вперед.

ПОСЛЕ ВЫСТУПЛЕНИЯ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

## Президент прочитал и поручил…

*29 августа в «Народной Воле» был опубликован материал «Милиция и справедливость». В нем мы рассказывали о пенсионере из Витебской области Николае Федоровиче Анищенко, у которого с дачного участка украли улей, а несколько позже – велосипед. Более года мужчина ходил по милицейским кабинетам в надежде на поиск виновных. Но все общение с людьми в погонах закончилось для Николая Федоровича… судом. Хорошо, что Фемида подошла к рассмотрению иска принципиально.*

*Через несколько дней после выхода статьи жителя Витебской области пригласили на встречу с главой Администрации президента Натальей Кочановой. Поприсутствовать на ней хотел и корреспондент «Народной Воли», автор материла. Но дальше поста дежурного милиционера сотрудники областного исполнительного комитета пройти журналисту не позволили. Назвать внятную причину отказа представители местной власти не смогли.*

*Опять даем слово Николаю Федоровичу Анищенко:*

– Мне позвонил начальник главного управления по работе с обращениями граждан и юридических лиц Администрации президента Григорий Иванович Шлык, – *рассказывает Николай Анищенко.* – Сказал, что глава Администрации Наталья Ивановна Кочанова хочет со мной встретиться в удобное для меня время. Договорились, что я приеду в пятницу в Витебский облисполком. На встречу я взял все бумаги по переписке с сотрудниками милиции.

**– Как проходила встреча?**

– Меня пригласили в кабинет, Наталья Ивановна встала из-за стола и поздоровалась за руку. На встрече были прокурор области, Григорий Иванович Шлык, а также помощница главы Администрации.

Встреча проходила очень демократично. Я рассказал всю историю своих хождений по инстанциям. Меня никто не перебивал. Сомнений в том, что я не вру, ни у кого не было. Григорию Ивановичу я передал все бумаги, с которых были сделаны копии. Также у меня поинтересовались, почему первоначально со своей историей я обратился в «Народную Волю», а не в «Советскую Белоруссию». Я ответил, что ваше издание ранее я периодически покупал, а сейчас являюсь подписчиком.

**– Чем закончилась беседа?**

– Если подводить итоги, то я остался доволен результатом встречи. Кстати, Наталья Кочанова подтвердила то, о чем нетрудно было догадаться: публикацию «Милиция и справедливость» прочитал президент и дал ей указание выяснить, в чем суть проблемы. В ближайшее время с участием начальников Городокского РОВД и Следственного комитета района будет проходить разбирательство. Человек я не наивный, поэтому будем делать выводы по конечному результату.

Также Наталья Ивановна сказала, что, скорее всего, мы еще встретимся. Показухи или искусственности во время встречи я не заметил.

**– Если встреча проходила демократично, то почему на нее не пустили меня – автора статьи?**



– В разговоре с Григорием Шлыком я спросил: «*Вы в курсе, что на нашу встречу хотел попасть журналист «Народной Воли»?*» Он ответил: «*Знаю*». Я высказал свое мнение: «*Думаю, что это неправильное решение. Если бы присутствовал автор публикации, то, кроме правды, о нашей встрече он ничего не написал бы*». Не знаю, почему тебя не пустили, но не исключено, что не хотели каких-то дополнительных вопросов.

**– Если на острокритическую публикацию реагирует лично президент страны, то не является ли это сигналом того, что работа местных властей вызывает неудовлетворенность?**

– В нашем разговоре такая мысль проходила красной нитью. И на мои слова возражений, в том числе от прокурора области, не было.

**– Президенту стало обидно за однополчанина, как-никак вы служили на одной пограничной заставе, пусть и в разные годы?..**

– Возможно. К тому же все понимают, что милиция не должна так работать с людьми. Надо отметить, что и на этой встрече (и вообще) никто мне не сказал, что статья была написана необъективно.

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

Фото автора.



ЗДАРЭННЕ

## Прыехаў…

Страшная аварыя адбылася ў Мінску на праспекце Дзяржынскага.

9 верасня каля 6 гадзін раніцы аўтамабіль “Мітсубішы” праехаў на чырвонае святла святлафора, на што звярнулі ўвагу дзяжурныя патрульна-пастравой службы. Перасякаючы скрыжаванне, вадзіцель не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў слуп.

Аўтамабіль загарэўся, 27-гадовы шафёр загінуў на месцы.

Паводле інфармацыі следчых, у крыві загінуўшага было 2,3 праміле алкаголю.

**Віктар ШПАК.**

АСОБА

# Свет гісторыка і паэткі Святланы Куль

Ці магчыма адначасова быць гісторыкам і паэтам? Прыклад прафесара Святланы Яўгенаўны Куль, аўтаркі шматлікіх прац навуковага і навукова-папулярнага характару, вядомых далёка за межамі Беларусі, дае станоўчы адказ. Днямі ў Гродзенскай бібліятэцы імя Макаёнка адбылася прэзентацыя яе другога па ліку паэтычнага зборніка, дзе яна чытала не толькі свае вершы, на з'яўленне якіх паўплывала містыка, але і распавяла пра новыя даследаванні: напрыклад, чаму Аўгустоўскі канал не працуе напоўніцу, і чаму можна сцвярджаць, што Францыск Скарына быў пратэстантам.



### «Хто я сёння?»

Святлана Куль – гродзенка ў сёмым пакаленні, з сям'і дактароў (яе дзед яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі быў урачом). Пасля вучобы ва ўніверсітэце скончыла дактарантуру, паспела нават папрацаваць у школе загадчыцай бібліятэкі. А затым 33 гады аддала роднаму Гродзенскаму дзяржаўнаму ўніверсітэту імя Янкі Купалы, пакуль у 2014 годзе не стварылася сітуацыя, якую яна іранічна характарызуе так: "Я сышла, ці мяне сышлі".

Чацвёрты год Святлана Куль жыве ў Польшчы, выкладае ў Беластоцкім і Варшаўскім універсітэтах, але адзначае, што "вельмі цяжка без Гродна, без Беларусі".

*"Іншым разам я прачынаюся і думаю: хто я сёння? Эканаміст, педагог, гісторык, мастацтвазнаўца, культуролаг? На якой мове я размаўляю (даводзіцца выкладаць і па-польску, і па-беларуску, і па-руску, у залежнасці ад краіны і дысцыпліны)?"*

### Пра Аўгустоўскі канал

Прафесар Святлана Куль ведае, чаму такая нізкая эфектыўнасць выкарыстання гэтай воднай артэрыі. Рэканструкцыя канала адбывалася пры яе непасрэдным удзеле.

З таго часу мінула 13 гадоў, а Аўгустоўскі канал не працуе так, як задумвалася. Чаму? Каб стаць рэзідэнтам свабоднай эканамічнай зоны "Гродна" і атрымаць пэўныя прэферэнцыі, трэба спачатку распрацаваць інвестпраект на 200 тысяч еўра. Сума немалая, рызыкаваць ніхто не хоча. Ці ж рэальна разгарнуць сур'ёзны праект на паласе шырынёй 150 метраў? Можна было б прыцягнуць дробных інвестараў, але пры невялікіх грашовых укладаннях яны не маюць права стаць рэзідэнтамі.

Святлана Куль прапаноўвае наступнае вырашэнне дадзенай праблемы: стварыць кластар з аграгаспадарак па польскім прыкладзе. У суседзяў яны дзейнічаюць на тым жа Аўгустоўскім канале, у Белавежскай і Кнышынскай пушчах. "Там развіваецца агратурызм, дзе агратаварыствы аб'ядноўваюць свае сілы і магчымасці для інвесціравання", – кажа прафесар Куль.

### Скарына быў пратэстантам?

У юбілейны год беларускага кнігадрукавання ў Святланы Куль з'явілася ідэя прааналізаваць даты, якія пазначаны ў творах Францыска Скарыны. На сённяшні дзень з шасці тысяч прац пра першадрукара няма ніводнай прысвечанай календару, якім ён карыстаўся. З гэтай нагоды і з'явіўся артыкул "Летазлічэнне Францыска Скарыны".

У тыя часы людзі адначасова карысталіся некалькімі календарамі. Пры гэтым у пазначэнні дат у кнігах галоўнае месца надавалася ўзгадкам рэлігійных святаў, ды і сам каляндар быў кананізаваны, і яго нельга было мяняць. Нягледзячы на гэта, беларускі першадрукар пісаў даты па-іншаму: дзень, месяц, год – так, як гэта сёння робім мы. Такая свецкасць у датаванні звязана са з'яўленнем пратэстантызму. А Скарына быў асабіста знаёмы з Лютэрам, жыў у гусіцкай Празе. Таму не дзіўна, што Святлана Куль вылучае наступную гіпотэзу: "Прааналізаваўшы яго летазлічэнне, можна сцвярджаць, што Скарына быў пратэстантам".

Для каго Скарына займаўся такімі разлікамі? Канешне, не для сялян, у якіх быў святар: ён сказа ў храме, калі адзначаць святы. Скарына стварыў даведнік, своеасаблівую метадычку для гандляроў, якія падарожнічалі па ўсім свеце і ўдалечыні ад радзімы мусілі сачыць за царкоўнымі святамі.

### Містыка як шлях у паэзію

Пісаць вершы Святлана Куль пачала з 9 гадоў, але да 2011 года напісала іх усяго каля 40. Пакуль не здарылася падзея, якая моцна паўплывала на яе: памёр яе душэўны сябар, з якім разам працавалі і сябравалі сем'ямі, – Эдуард Масько, навуковец і паэт: "І ведаеце, вось ён пайшоў, а ў мяне на 35-ы дзень нарадзіўся верш, яму прысвечаны. У першы год я напісала 700 вершаў. Такое ўражанне, што мне нехта дыктаваў адтуль, таму што першыя вершы, якія я пісала, нават былі ад імя мужчыны. Скончыўся гэты марафон роўна ў гадавіну смерці Масько. Прычым гэта было не прымусова, я проста садзілася і пісала".

Яна прынцыпова не ўваходзіць ні ў адзін з саюзаў пісьменнікаў, а прыкладамі майстроў слова лічыць Рыгора Ліхтаровіча, Міхася Скоблу і Рыгора Барадуліна, якога называе *"пакуль недаацэненай постаццю сусветнага значэння"*.

Першую кнігу вершаў Святлана Куль напісала за год. Другая, што цяпер пабачыла свет, – вынік амаль чатырохгадовай працы. У ёй тры паэмы, балады, вершы, у тым ліку ў прыдуманай ёю форме вясёлкі.

Кніга выканана з мастацкім густам. Яе старонкі ўпрыгожваюць творы вядомага майстра выцінанкі Вольгі Бабулінай, якая ў залежнасці ад уласнага адчування пэўнага верша падабрала рознакаляровыя выцінанкі. На вокладцы выяўлены абрыс матыля са складзенымі крыламі. Варта толькі разгарнуць кнігу – і матыль паляціць у захапляльны свет гісторыка і паэткі Святланы Куль.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ВНЕ ИГРЫ

# Быть или не быть частному футбольному телеканалу?



Уже полгода любители спорта задаются этим вопросом. Им обещали, что канал появится и будет показывать в прямом эфире и в HD-качестве чемпионат нашей страны в полном объеме. Пессимисты этим планам не доверяли, и их можно понять. В стране уже есть спортивный канал «Беларусь 5». Правда, не чисто футбольный. Не аналог американскому ESPN.

И все же – как продвигается идея по созданию нового телеканала?

Попытаемся восстановить хронологию событий.

### С чего все началось?

В феврале 2017 года совет клубов высшей лиги чемпионата Беларуси по футболу принял решение о создании нового телевизионного канала «БК-Сетанта». Одним из учредителей канала должна была стать ассоциация «Белорусская федерация футбола» (далее АБФФ).

### Вещала ли у нас «Сетанта» до этого?

Да, причем двумя каналами: «Сетанта Спорт» и «Сетанта Спорт +». На февраль этого года общий охват зрительской аудитории составлял 1,2 млн человек.

Зачем нам третий? Третьего не было бы. Просто матчи чемпионата Беларуси показывались бы на одном из вышеперечисленных каналов.

### Кто за этим стоит?

За реализацию идеи, по сути, отвечали два человека: **Владимир Бережков** и **Всеволод Майоров.** Владимир Бережков в то время возглавлял департамент маркетинга и коммуникации АБФФ. Всеволод Майоров руководит представительством «Сетанта-Спорт» в Беларуси. Хочешь не хочешь, а наличие таких кадров в обойме вселяло определенную надежду.

### Что было дальше?

Далее была запущена полномасштабная пиар-кампания проекта в СМИ, объявлены сроки кастинга комментаторов, озвучен ориентировочный годовой бюджет канала. Запуск планировался к 6-му туру чемпионата.

Что касается финансовой части, то планировалось, что деньги будут взяты в кредит. Ни рубля из государственного бюджета никто не просил.

В марте 2017-го Владимир Бережков и АБФФ расторгли контракт по обоюдному соглашению сторон. Бережков стал директором ООО «Свой футбол», дочерней компании АБФФ, и полностью сконцентрировался на создании телеканала. Глава АБФФ **Сергей Румас** возлагал большие надежды на канал и говорил о том, что отсутствие такового на тот момент было большой недоработкой самой федерации.

А дальше начались проблемы, проект начал блуждать по кабинетам чиновников. Одна из важнейших задач канала заключалась в получении лицензии СМИ в Министерстве информации. Лицензию Министерство выдать отказалось.

Сергей Румас был даже вынужден публично обратиться к Александру Лукашенко на олимпийском собрании и попросить посодействовать. Говоря о причинах пробуксовки, Сергей Николаевич сказал следующее: *«Беларусь 5» волнуется».* Лукашенко был с Румасом согласен: *«Если БТ-5 неудобно – это не повод не создавать канал. Наоборот, чтобы «Пятый» зашевелился, надо туда этого щупака запустить. Потому что вы же видите наше «Беларусь 5». Они там комментаторов нормальных не могут найти. ...Будем говорить откровенно: канал БТ-5 – он просто никакой...»*

А на «Беларусь 5» действительно волновались. Все-таки конкуренты маячат на горизонте. Сразу после просьбы Румаса в Администрацию президента были вызваны **Александр Казюкевич и Павел Булацкий**, бывший и теперешний руководители «Беларусь 5». Главе Администрации президента **Наталье Кочановой** и заместителю премьер-министра **Василию Жарко** было дано поручение до 1 сентября найти решение вопроса по запуску футбольного телеканала. Владимир Бережков был настроен оптимистично. По поводу поручений президента Владимир Петрович сказал следующее: *«Я бы сказал, теперь будут вынуждены заняться. И благодарить за это надо Румаса, который проявил недюжинные смелость и волю, преодолевая колоссальное сопротивление ближайшего окружения Лукашенко. Ну и, разумеется, спасибо самому «государю», давшему понять: «вьющиеся у ног» не захватили голову».*

Однако 8 августа Бережков был уволен с должности директора ООО «Свой футбол». Судя по всему, за то, что вслух говорил о том, о чем не стоило. Сергей Румас тогда обронил фразу, что директору компании далеко не всегда стоит высказывать то, что может сказать журналист, и, мол, учредителями было принято решение о том, что проектом будет заниматься другой человек.

Через неделю после увольнения Бережкова появилась информация о том, что сейчас прорабатывается возможность вхождения БГТРК в состав учредителей ООО «Свой футбол». Если так все и случится, то частного футбольного канала в том виде, в котором он задумывался, мы не увидим.

**Алексей ШУНТОВ.**




ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Соблюдайте тепловой режим

***Кусты сладкого перца в теплице выросли огромные, а плодов мало. В чем дело?***

**Софья КОСТИКОВА.**
*г.Ошмяны.*

Причин может быть много. Наиболее вероятная из них – нарушение теплового режима. При температуре более 30 градусов куст активно растет, а цветки не опыляются. Высокорослые индетерминантные (с непрерывным ростом) и сильнорослые полудетерминантные (сами останавливаются в росте) сорта формируют.

Со слаборослых детерминантных сортов в самом начале развития растения удаляют пасынки (побег в пазухе листа) и листья до первой развилки главного побега, а в ней оставляют два наиболее сильных побега. На этом формирование заканчивается. Так же поступают с остальными сортами в открытом грунте.

Формировку индетерминантных и сильнорослых детерминантных сортов проводят, как сказано выше, для слаборослых сортов. Затем в каждой развилке оставляют один побег продолжения (его не трогают), один побег прищипывают на один лист, остальные побеги (как правило, их не бывает) удаляют.

Перец относится к факультативным самоопылителям (опыляется своей пыльцой, насекомыми), поэтому дополнительного опыления не требует. При наличии различных насекомых летом он нормально опыляется и в открытом грунте, и в весенних теплицах. Лишь в обогреваемых теплицах в зимнем обороте приходится слегка потряхивать шпалеру.

АЗБУКА САДОВОДА

## Ледников нет? Используйте погреб

***Где лучше всего хранить плоды и овощи?***

**Зинаида ПАСМУРЦЕВА.**
*г.Малорита.*

Для хранения можно использовать любые помещения, где есть возможность поддерживать необходимую температуру и влажность воздуха. Температура воздуха должна быть равномерной и меньше $5^{\circ}C$, а относительная влажность воздуха 80–90 процентов. Самыми лучшими для этой цели являются ледники и погреба, набитые снегом. В таких помещениях обычно высокая влажность и, что особенно важно, устойчивая температура воздуха.

В очень холодном помещении, например на веранде дачи или на балконе, можно хранить фрукты и овощи в бочках, которые помещают в короб и утепляют опилками таким слоем, который обеспечивает температуру окружающего воздуха около нуля градусов.

Пригодны также холодные неотапливаемые помещения, комнаты (на северной стороне, без окон), коридоры, неотапливаемые сени и подполы, где температура не падает ниже $-2^{\circ}C$. Подвалы можно оборудовать различными стеллажами для фруктов и закромами или ларями для овощей, картофеля. Иногда яблоки, лук, чеснок хранят на чердаках домов без жестяной кровли.

Все помещения для хранения должны иметь вентиляцию. Для этого либо устраивают вентиляционное окно с небольшим вентилятором, который можно приобрести в магазине электробытовых товаров.

Весьма удобно делать небольшие углубленные погреба путем намораживания льда заранее по сколоченной опалубке. При хорошей изоляции опилками и землей такой ледяной погреб может прослужить 3–4 года.

Для хранения картофеля, моркови, свеклы, редьки, репы наиболее широко используют временные устройства: бурты, траншеи, ямы.

ЭТО НЕСЛОЖНО

## Будут свои семена

***Дачник я начинающий. Посоветуйте мне, как самому заготовить семена перца и томата. Я ими доволен: они дали в этом году хороший урожай.***

**Денис БОЛОЖИНСКИЙ.**
*п.Лепель.*

Если вам понравился тот или другой сорт томата, перца сладкого, соберите из них свои семена. Эти культуры самоопыляющиеся и хорошо передают наследственные признаки потомству. Плоды на семена выбирайте с самых хороших, типичных для сорта растений. У томата можно снимать плоды как красными, так и бурыми с последующим дозариванием. Когда они станут мягкими, разрежьте их пополам и чайной ложкой выгребите мякоть с семенами в стеклянную банку, где оставьте для брожения на 3–5 дней. Если жидкости в плоде мало, долейте воду. Затем семена тщательно промойте и разложите на бумаге для просушивания.

У перца вырежьте плодоножку и семена сразу выскребайте на бумагу. После досушивания семена соберите в бумажный пакет, на котором отметьте сорт и год урожая. Семена храните в теплом помещении в недоступном для грызунов месте. Свои семена можно получить от любого сорта, но не гибрида. Гибриды во втором поколении расщепляются, и вы не получите желаемого результата.

КУЛИНАРНЫЕ РЕЦЕПТЫ

## Маринованный чеснок

Очистим головки от общей чешуи, но оставим ее на зубках. Вымоем их и, не разрывая на дольки, сложим головки в банку, выше уровня закладки зальем кипяченой охлажденной соленой водой (на 1 л 6 ст. ложек соли). Банки под полиэтиленовыми крышками выдержим месяц в темном месте, чтобы не разрушался витамин С. После этого сольем рассол и заполним банки маринадом (на 2,5 стакана воды – 1,5 стакана 9%-ного уксуса, который продается в магазинах, по 1 ст. ложке соли и сахара). Через три недели маринование закончится, и чеснок будет готов к употреблению. Храним в маринаде в прохладном месте. Вынимать его из маринада будем по мере необходимости. Если банки зимой стоят на балконе и маринад замерзнет, это не страшно, при оттаивании чеснок не теряет своего вкуса.

Еще один рецепт маринования. Чеснок поначалу выдерживаем в холодной соленой воде (концентрация – как в первом рецепте) с добавлением 9%-ного уксуса. Расчет такой: на 1 кг чеснока в воду вольем ¾ стакана уксуса. В этом растворе головки находятся не менее месяца, но овощ не теряет своей жгучести. После выдержки уксусный раствор сольем, головки промоем холодной водой и положим в новый раствор уксуса (на 1 л – ¼ стакана). Чтобы придать маринаду и чесноку рубиновый цвет, натрем красной свеклы, отожмем ее сок через марлю, доведем до кипения, охладим и вольем в раствор (2–3 ст. ложки на литровую банку). В этом маринаде выдержим 15–20 суток, после чего чеснок по мере надобности подаем к столу, беря из раствора нужную порцию.

ФУТБОЛ

## Вызначылася тройка лідараў

*Прайшлі матчы 21-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: "Гомель" – "Дынама" (Мінск) – 0:1, "Шахцёр" (Салігорск) – "Крумкачы" (Мінск) – 2:0, БАТЭ (Барысаў) – "Славія" (Мазыр) – 2:0, "Мінск" – "Слуцк" – 1:1, "Гарадзея" – "Віцебск" – 3:2, "Дынама" (Брэст) – "Ісլач" (Мінскі раён) – 4:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Мн) | 21 | 16 | 1 | 4 | 32–11 | 49 |
| Шахцёр | 21 | 14 | 5 | 2 | 32–13 | 47 |
| БАТЭ | 21 | 14 | 3 | 4 | 36–11 | 45 |
| Слуцк | 21 | 9 | 7 | 5 | 22–17 | 34 |
| Нёман | 20 | 9 | 6 | 5 | 26–19 | 33 |
| Віцебск | 21 | 9 | 5 | 7 | 25–23 | 32 |
| Дынама (Бр) | 21 | 8 | 7 | 6 | 32–22 | 31 |
| Тарпеда-БелАЗ | 20 | 8 | 7 | 5 | 27–17 | 31 |
| Гарадзея | 21 | 6 | 9 | 6 | 22–23 | 27 |
| Гомель | 21 | 6 | 6 | 9 | 18–19 | 24 |
| Крумкачы | 21 | 4 | 8 | 9 | 20–30 | 20 |
| Днепр | 19 | 5 | 4 | 10 | 17–30 | 19 |
| Мінск | 21 | 3 | 9 | 9 | 13–28 | 18 |
| Славія | 21 | 3 | 7 | 11 | 18–33 | 16 |
| Ісլач | 20 | 4 | 3 | 13 | 14–31 | 8 |
| Нафтан | 20 | 2 | 3 | 15 | 7–34 | 4 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны матчы тура "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Нафтан" (Наваполацк), "Нёман" (Гродна) – "Днепр" (Магілёў), якія адбыліся ўчора вечарам.*

## Узаемадапамога

Дапамагу шматдзетным, маламаёмным абуткам, адзеннем і іншым чынам. **Тэл. 8-029-191-11-87 (Velcom).**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 11.09.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 015 экз. Заказ № 3273.